 





## КУЛЬТУРА

# "ЯК ЖЫЦЬ, ДЫК ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ..."

**Споўнілася 86 гадоў з дня нараджэньня славутай паэткі Ларысы Антонаўны Геніюш. Адзін з блізкіх сяброў паэткі - настаўнік Дзярэчынскай сярэдняй школы, нязьменны кіраўнік літаб'яднаньня пры зэльвенскай райгазеце "Праца" спадар Пятро Марціноўскі - сёньня суразмоўца нашага карэспандэнта.**

***- Пётр Мікалаевіч, пры якіх абставінах адбылося ваша знаёмства з Ларысай Геніюш?***

- Неяк восеньню напрыканцы 50-х гадоў прыйшоў са школы дамоў і ўбачыў, што на падворку стаяў незнаёмы хударлявы мужчына ў шэрым плашчы і капелюшы, а ў кветніку мая жонка Ірына Рыгораўна ажыўлена размаўляла з незнаёмай мне жанчынам, апранутай у цёмнае асеннае паліто, на галаве была завязана простая хусьцінка з чырвонымі кветкамі. Я павітаўся з мужчынай, пачаў з ім гутарыць. Занятыя клопатамі аб кветках, жанчыны на нас не зьвярталі аніякай увагі. Прычыну іх прыезду даведаўся з размовы - у нас быў самы прыгожы кветнік у Дзярэчыне. Ён і прывабіў Ларысу Геніюш. Яны з Іванам Пятровічам знарок прыехалі з Зэльвы, каб пазнаёміцца з яго гаспадарамі...

Потым гэтае знаёмства перарасло ў сяброўства. Хаця яна шмат разоў папярэджвала, каб я ня трапіў у чорны сьпіс яе наведвальнікаў, я не баяўся сустракацца з ёй.

***- Чаму?***

- Бо была патрэба ў душэўнай размове, дыскусійнасьці на тэмы адраджэньня, мовы, вакол праблем беларускасьці... Яна апантана, самааддана любіла свой народ, мову, Беларусь, яе гісторыю і культуру. І гэта любоў заўжды была ў яе сэрцы. Памятаеце:

*Адзінай мэты не зракуся*
*І сэрца мне не задрыжыць:*
*Як жыць - дык жыць для Беларусі.*
*А без яе - зусім ня жыць.*

***- Якая рыса яе характару найбольш імпануе Вам?***

- Гэта была простая, шчырая і добразычлівая беларусачка. Яна ніколі не крывіла душой, не прыстасоўвалася да рэжыму, заўжды гаварыла праўду, якой бы жорсткай яна ні была. І яшчэ адна рыса, якая падкупляла -даверлівасьць і вера ў простых людзей, яе адкрытасьць...

***- Наколькі мне вядома, невялікую толіку свайго сямейнага архіва яна перадала вам.***

- Неяк Ларыса Антонаўна сказала, што хоча перадаць мне грамплацінкі, некаторыя творы і матэрыялы. Было гэта восеньню 1982 году, але хутка яна захварэла. Было не да гэтага. Яна верыла, што прыедзе з бальніцы здаровай. Усё атрымалася, як вядома, наадварот, яна памерла.

Захаваліся ў мяне некалькі рукапісаў яе вершаў "Зубры", "Пятру Клімуку". Яны надрукаваны ў зборніку "Белы сон". Ёсьць яшчэ незакончаная ёю паэма аб знаходжаньні ў сталінскім ГУЛАГу, якая яшчэ нідзе не друкавалася.

***- Вы былі сьведкам яе сустрэчы з землякамі-аднавяскоўцамі, з якімі яна разьвіталася ў 1937 годзе...***

- Аднойчы, было гэта ў 1968 годзе, Ларыса Антонаўна патэлефанавала мне ў Дзярэчын і папрасіла, каб я прыехаў у Зэльву на матацыкле: ёсьць неадкладная справа.

Ларыса Антонаўна была, як заўжды, уважлівая, ветлівая, у бадзёрым настроі. Запрасіла ў хату, пазнаёміла мяне з журналістам з Менску Алесем Пятровічам Траянускім. Частавала нас толькі што сьпечаным пірагом і кавай.



Праз некаторы час мы адправіліся ў дарогу. Праехалі Ваўкавыск, Рось. Спыніліся ў невялічкай вёсачцы Палаўкі. Ларыса Антонаўна папрасіла мяне заехаць на адзін падворак. Высьветлілася, што ў гэтай хаце жыве добра знаёмая жанчына, якая яшчэ да вайны дапамагала Міклашэвічам у выхаваньні дзяцей і ў розных гаспадарчых справах. Гэта была старэнькая, невялікага росту, хударлявая, але даволі рухавая жанчына, якая адразу пазнала Ларысу Антонаўну. Было многа сьлёз і радасьці ад гэтай сустрэчы.

Пагутарыўшы з гаспадарамі, мы пайшлі ў маёнтак (засьценак) Жлобаўцы, што побач з Палаўкамі, дзе калісьці жыла дружная і працавітая сям'я Міклашэвічаў. "Тут прайшло маё дзяцінства і маладыя гады", - сказала Ларыса Антонаўна, як бы вітаючыся з мясьцінай.

На жаль, будынкаў не захавалася: усё было разбурана за гады вайны. З усіх гаспадарчых пабудоў захавалася толькі абора, пабудаваная з каменьня і цэглы. У ёй цяпер, як нам потым сказалі, калгасная канюшня.

Мы ходзім па фундаманьце дома. Ларыса Антонаўна вядзе расказ, успамінае і паказвае дзе што разьмяшчалася. "...А вось тут быў мой дзявочы будуар, - гаворыць яна. - Тут было акно і вось гэты бэз -напамінак аб тых далёкіх гадах маладосьці..."

Пачало заходзіць сонца, і мы зноў ідзём у Палаўкі, каб забраць матацыкл і адправіцца ў вёску Гудзевічы: Ларыса Антонаўна хацела ўскласьці кветкі на магілы сваіх продкаў.

Але гаспадары дома нас нікуды не адпусьцілі. На падворак прыходзілі незнаёмыя нам людзі, цікавіліся, хто прыехаў. Гаспадары ўсім адказвалі: "Наша Лорка прыехала. Прыходзьце да нас..."

А як вёску ахінуў вячэрні змрок, у хату гаспадароў пачалі прыходзіць людзі з усёй вёскі з нейкімі клункамі і напоўненымі сеткамі. Ішлі, як на вечарыну, прыхапіўшы з сабой пачастункі. У хаце паставілі пяць сталоў, але месца ўсім так і не хапіла. Прыйшлося цясьніцца. Нас пасадзілі, як паважаных гасьцей - на покуце. Застольле доўжылася за поўнач. Ларыса Антонаўна не чытала вершаў, а больш цікавілася жыцьцём і бытам сваіх землякоў, адказвала на шматлікія пытаньні. Здавалася, што яна ажыла, памаладзела.

...Шкада, што мы толькі пасьля сьмерці пачынаем ацэньваць чалавека, яго справы, разумець, каго страцілі. Ларысу Антонаўну ведаў увесь цывілізаваны сьвет. А мы? Толькі цяпер пачынаем усьведамляць, што Ларыса Антонаўна - Маці нацыі. Яна ў найцяжэйшыя часы падала ўсім прыклад, як трэба пераадольваць невыносныя пакуты жыцьця, захоўваць чалавечую годнасьць, веру ў дабро і справядлівасьць...

**Фотаздымак з архіва Дануты Бічэль-Загнетавай.**

## ТАКІЯ ЛЮДЗІ НАРАДЖАЮЦЦА РАЗ У 100 ГОД

**Жыхарка Гродні – спадарыня Галіна Кісель – упершыню даведалася аб Ларысе Геніюш у камеры менскай турмы КДБ, куды спадарыню Галіну пасадзілі ў 1949 годзе разам з групай студэнтаў Гарадзенскага педагагічнага інстытута.**

- Аднаго разу ў камеру прывялі дзьвюх дзяўчат, - расказвае сп.Галіна.- Яны моцна плакалі. Я запытала, ці не на допыце іх так катавалі. Яны адказалі: "Для нас горш катаваньня тое, што разлучылі з Ларысай Геніюш. Калі мы сядзелі разам з ёй у камеры, яна для нас была духоўнай падтрымкай. Добрая, разважлівая. Усіх заўсёды выслухае, параіць, што рабіць у цяжкіх выпадках. Супакойвала дзяўчат, каб ня падалі духам. Яна была вельмі мужная, упэўненая ў сваіх перакананьнях. Была прыкладам для астатніх. Заўсёды малілася Богу і нас навучыла. Мы разам маліліся, каб Бог дапамог перажыць бяду, што звалілася на наш народ.

Такіх жанчын, як Ларыса Геніюш можна сустрэць толькі раз на 100 год".

Выгляд у бедных дзяўчат быў такі, быццам бы іх толькі што разлучылі з маці. Ад іх я ўпершыню даведалася, што ў Беларусі ёсьць вялікая паэтка і чалавек - Ларыса Геніюш.

**Д.К.**

## ПРАСТОЛЬНАЕ СЬВЯТА КАЛОЖСКАЙ ЦАРКВЫ

6 жніўня ў дзень сьвятых Барыса і Глеба ў старажытнай сьвятыні - Барыса-Глебскай (Каложскай) царкве адбылася сьвяточная літургія. Яе адслужылі біскуп Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцёмі, іерэй айцец Анатоль.

**Д.К.**

## "БАЦЬКАЎШЧЫНА" У ДАНІІ

Амаль два тыдні праводзіць у Даніі сьлевакі хору духоўнай музыкі "Бацькаўшчына". Па запрашэньню муніцыпальных уладаў горада Колдзінга і мясцовай пратэстанцкай парафіі з 15 па 26 жніўня гарадзенцы дадуць у гэтай краіне шэраг дабрачынных канцэртаў.

**В.ДРЭМА.**

# ЖЫЦЬЦЁ ЯЕ, ЯК БЕЛЫ СОН

**Крыху больш за 4 гады, як вядомая акторка Галіна Дзягілева ажывіла вобраз нашай славутай паэткі-зямлячкі Ларысы Геніюш. З тае пары вандруе беларускі паэтычны тэатр аднаго актора "Зьніч" па сьвеце з монасьпектаклем "Белы сон" паводле ейнай "Споведзі".**

І вось напярэдадні 86-х угодкаў слыннай паэткі-змагаркі ў Малой зале Гарадзенскага драмтэатру постаць Ларысы Геніюш увасобілася сцэнічна, сабраўшы, бадай што, выключна заангажаваную ў адраджэньні інтэлігенцыю.

Галіна Дзягілева адразу сканцэнтравала ўвагу гледачоў натуральнай распавядальнай інтанацыяй, пераносячы прысутных то ў перадваенныя гады, то ў Прагу, то ў Менск, то ў сталінскія лагеры.




Стварылася ўражаньне, што час і прастора трацяць сэнс, а на першы план вылунаецца драматызаваная споведзь лірычнай гераіні аб сваім шматпакутным жыцьці, якое праляцела на вачах, як белы сон. Кавалкі гэтага цяжкага сну, пераплеценыя вершамі Ул.Арлова, Ул.Караткевіча, В.Ластоўскага, А.Разанава дый самой Ларысы Геніюш, уяўляюць сабой дакладныя малюнкі брутальнага ў адносінах да чалавека мінулага. Шчырая, адданая справе адраджэньня гераіня сьвядома не згаджаецца на ніякія кампрамісы. Натхнёная подзьвігам Хрыста, яна гатова аддаць жыцьцё за вольную Беларусь...

**Людвік САРОКА.**

# МУЗЫКА Ў СПАДЧЫНУ

Зусім нядаўна гарадзенцы спраўлялі юбілей вядомага кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага. А на мінулым тыдні віншаваньні прымаў другі самадзейны творца - 75-я ўгодкі адзначыў Адам Чопчыц. Адам Сідаравіч вядомы ў горадзе перш за ўсё як стваральнік і нязьменны кіраўнік фальклорнага ансамблю "Нёман" - калектыву, які быў заснаваны яшчэ ў 1957 годзе.

Традыцыі бацькі належна працягвае сын - Аляксандр Чопчыц. На IV гарадзкім конкурсе "Песьня над Нёманам" прагучалі ажно пяць ягоных твораў. А прэм'ерная баладная кампазіцыя "Ты памаліся, мой народ!" у выкананьні леташняга лаўрэата Дзьмітрыя Якубовіча сталася сапраўдным апагеем фестывалю.

**Ладзік МАЙНІЧ.**




**9 жніўня**

**1856 г.** (140 год таму) памёр Фларыян Бохвіц, вядомы філосаф-мараліст, ураджэнец мястэчка Мір.

**1926 г.** У Міры нарадзіўся Янка Запруднік (спаўняецца 70 гадоў), вядомы дзеяч беларускай эміграцыі, доктар філасофіі.

**10 жніўня**

**1796 г.** (200 год таму) у вёсцы Малая Капліца (Гарадзенскі раён) нарадзіўся Ігнат Легатовіч, выбітны паэт і педагог.

**11 жніўня**

**1127 г.** Першае ўзгадваньне пра Горадню ў летапісах (Лаўрэнцьеўскі летапіс)

**13 жніўня**

**1956 г.** Памёр Якуб Колас, класік беларускай літаратуры.

**14 жніўня**

**1906 г.** Нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн, слынны паэт, руплівец беларушчыны. Працяглы час жыў і працаваў у Слоніме.

**16 жніўня**

**1874 г.** нарадзіўся Аляксандр Уласаў, беларускі выдавец і грамадзкі дзеяч, адзін з заснавальнікаў і рэдактараў газеты "Наша ніва".

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# ЛАЎРЫШАЎСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ ЗАСТАНЕЦЦА Ў ПОЛЬШЧЫ?

**Не пасьпеў старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Сямён Шарэцкі пагаварыць з маршалкам польскага Сэйму Юзэфам Зыхам аб магчымым вяртаньні на радзіму беларускага рукапіснага помніка XIV стагоддзя Лаўрышаўскага Евангельля, а ў Польшчы ўжо адрэагавалі на планаваную размову.**

СМІ суседній краіны паведамілі, што евангельле было напісана на тэрыторыі, належачай у XIV стагоддзі Літоўскаму княству. Апошнімі гаспадарамі старажытнай каштоўнасьці былі літоўскія князі Чартарыйскія, якія ў тастаманьце напісалі, каб іх спадчына нікому не перадавалася.

Атрымоўваецца, што няма падстаў, каб вярнуць беларускую каштоўнасьць беларусам.

Можна толькі шкадаваць, што Беларусь у сьвеце ня лічаць спадкаемцай дзяржавы нашых продкаў - ВКЛ.

## БЕЛАСТОЦКАЯ "НІВА" МЯНЯЕ АДРАС

**На гэтым тыдні газета беластоцкіх беларусаў "Ніва" пераязджае на новае месца па вуліцы Замэнхофа,20.**

Прычына перасяленьня - не хапае грошай утрымліваць старое памяшканьне па вуліцы Суражскай.

**Д.К.**

 

# БРОНЗАВЫ ДЭБЮТ

**4 жніўня амерыканская Атланта перадала эстафету аўстралійскаму Сіднэю, дзе ў 2000-м годзе пройдзе чарговая, 27-ая Алімпіяда. Гульні ў Амерыцы запомніліся шэрагам унікальных спартыўных дасягненьняў, тэрарыстычным актам, а для нас - дэбютам на алімпійскай арэне зборнай Беларусі, у складзе якой выступаў 21 гарадзенскі спарцмэн.**

Atlanta 1996.

**Кацярына Хадатовіч - акадэмічнае веславаньне**

**У. Дуброўшчык - дыск**
**І. Басінскі - пісталет**
**А. Мядзьведзеў - вольная барацьба**
**С. Ліштван - грэка-рымская барацьба**
**А. Паўлаў - грэка-рымская барацьба**
**Н. Сазановіч - сямібор'е**

**В. Шчэрба - спартыўная гімнастыка (4 медалі)**
**В. Цыленьць - грэка-рымская барацьба**
**Жаночая "васьмёрка" ў акадэмічным веславаньні**
**Э. Зьверава - дыск**
**В. Капцюх - дыск**

У шэрагу найярчэйшых момантаў мінулай Алімпіяды - сусьветны рэкорд у спрыньце на 100 метраў канадца Бэйлі, 9-ты па ліку залаты медаль спрынтара і скакуна ў даўжыню Карла Льюіса, трэцяя запар перамога цяжкаатлета з Турцыі Наіма Сулейманаглу і чатыры "бронзы" Віталя Шчэрбы, якія ён дадаў да 6-ці залатых медалёў у Барселоне. На жаль, для нашага славутага гімнаста гэта была апошняя алімпіяда - ён пакідае вялікі спорт.

Спарцмэны 79 з 197 браўшых удзел у гульнях краін вярнуліся дадому з медалямі. Пераканаўчую перамогу ў неафіцыйным камандным заліку атрымалі амерыканцы - 101 медаль ( з іх 44 - залатыя). Беларусь па колькасьці заваяваных медалёў заняла 20-е месца ( 1 залаты, 6 срэбных і 8 бронзавых).

**Вітаўт РУДНІК.**



## КІНААФІША ГОРАДНІ

**"ГРОДНА":** 9,10,11 жніўня: "Паміж двух агнёў" (дэтэктыў) - 9.50, 11.40, 13.30, 15.20,17.10, 19.10, 21.00; 12,18 жніўня: Сьмяротная бітва (МОРТАЛ КОМБАТ) - 9.50, 11.40, 13.30, 15.20,17.10, 19.10, 21.00. ВІДЭА: 9,10,11 жніўня: Сьпіна да сьпіны - 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.

**"КОСМАС":** 9.10 жніўня - "Навабранцы ідуць на вайну" (камедыя, Францыя) - 13.40, 17.20. "Абдымі мяне, усхвалюй, пацалуй" (крымінальная камедыя) - 15.30, 19.10, 21.00; 11 жніўня - "Навабранцы ідуць на вайну" (камедыя, Францыя) - 11.50, 13.40, 17.20; "Абдымі мяне, усхвалюй, пацалуй" (крымінальная камедыя)- 15.30, 19.10, 21.00.

**"ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА":** 10,11,12 жніўня: "Місіс Даўпфаер" - 11.20; "Дзень Незалежнасьці" - 12.10, 16.30, 20.50; "Мацнейшы ўдар-2" - 14.30, 18.50; "Пратэус" - 13.50.

**імя ПУШКІНА:** 9 жніўня: "Падвойны дракон" - 10.00 (ільготны); "Ніка-8" (Рашэньне аб ліквідацыі) - 11.50, 16.10, 18.30; "Жалезны арол-4" -14.20; Дыскатэка - 21.00; 10 жніўня - "Каспер" - 10.00 (ільготны); "Вялікія гонкі" (2 серыі) - 13.50, 16.30; "Пакаленьне-Х" (фантастычны баявік) - 12.00; "Рам і Лакхам" (2 серыі, Індыя) - 19.00; 11 жніўня: "Пакаленьне-Х" - 12.00; "Вялікія гонкі" - 13.50, 16.30; Рам і Лакхам -19.00; Дыскатэка - 21.30; 12 жніўня: "Каспер" - 10.00 (ільготны); "Пакаленьне-Х" - 12.00; "Вялікія гонкі" - 13.50, 16.30; "Рам і Лакхам" - 19.00.

Тэлефоны аўтаадказчыкаў:
**"КАСТРЫЧНІК"**: 2-20-74
**"УСХОД"**: 47-81-29

# АЛІМПІЙЦА СУСТРЭЎ БНФ

**Некалі ў старажытнай Грэцыі для сустрэчы переможца Алімпійскіх гульняў у сьцяне горада прасякалі новыя вароты...**

Пра тое, што бронзавы прызёр Атланты па грэка-рымскай барацьбе Валеры Цыленьць прыязджае ў Ліду 2 жніўня з 16 да 17 гадзін, было вядома і рэдакцыі мясцовай газеты, і кіраўніцтву горада, але сустракалі героя толькі родныя, суседзі і дэлегацыя Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Бел-чырвона-белымі сьцягамі , кветкамі і цёплымі словамі віталі сябры БНФ першага за ўсю гісторыю Ліды алімпійскага медаліста.

Бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў 1996 году ў Атланьце па грэка-рымскай барацьбе ў катэгорыі да 82 кілаграмаў, майстар спорту міжнароднага класу Валеры Цыленьць нарадзіўся ў Лідзе 22 верасьня 1969 году. Бацькі яго - Антон Іосіфавіч і Рэгіна Вікеньцьеўна - родам з Воранаўскага раёну.

Барацьбой Валеры займаецца з чацьвёртага класу. Першы трэнер - Анатоль Паплаўскі. Пасьля заканчэньня школы паступіў у Гарадзенскі універсітэт, дзе пачаў трэніравацца ў Віктара Капылова. Спартыўны ўзьлёт пачаўся ў 1991 годзе з перамогі на першынстве рэспублікі. У 1995 годзе Валеры быў трэцім на Чэмпіянаце сьвету.

На Алімпіядзе перамог бельгійца, кіргіза, шведа, расейца і ў барацьбе за трэцяе месца - казаха. Прайграў будучаму алімпійскаму чэмпіёну турку Хамзе Ярлікаю.

Дарэчы, Валеры мае пяць сясьцёр, і ўсе добрыя спарцмэнкі. Малодшая Наташа ў свае 14 гадоў бегае 100 м за 12.9 с. На прайшоўшай нядаўна ў Беластоку міні-Атланьце заняла другое месца.

Зараз наш алімпіец працуе ў Горадні інструктарам Цэнтральнага савету спартыўнага таварыства "Дынама".

**Станіслаў СУДНІК.**

# ГІСТОРЫЯ ЛЯЖЫЦЬ ПАД НАГАМІ

**Два тыдні на раскопках гарадзішча Касьценева ў Шчучынскім раёне правялі студэнты гістфаку Гарадзенскага універсітэту і шэсьць валаньцёраў з Англіі, Францыі, Галандыі, ЗША.**



На месцы гарадзішча, заснаванага славянамі ў X стагоддзі і спаленага ў XIII (хутчэй за ўсё, пад час паходаў на нашыя землі галіцка-валынскіх князёў) знойдзены рэшткі керамікі, наканечнікі стрэлаў, два шкілеты.

**Ул.інф.**



# МАКОЎСКІ ПАБІЎ ТУРКАЎ

**Нечакана ўдала стартавалі ў кваліфікацыйным туры Кубку УЕФА па футболе менскія "Дынама" і "Дынама-93". Чэмпіёны краіны прымалі ў Маладэчне турэцкі "Бешыкташ", які ўзмацніўся ў гэтым сезоне ўдзельнікамі першынства Эўропы - харвацкім брамнікам Мрмічам, балгарскім абаронцам Янкавым і новаспечаным алімпійскім чэмпіёнам -нігерыйцам Амакачы.**

Тым больш важкай выглядае атрыманая менчукамі перамога. На два галы новай "зоркі" беларускага футболу Уладзіміра Макоўскага туркі здолелі адказаць толькі трапным ударам Сердара.

Пахвалы заслугоўваюць і футбалісты "Дынама-93". У Швецыі яны здолелі згуляць у нічыю 1:1 з моцным "Хельсінгборгам". Адказныя гульні Кубку УЕФА пройдуць 20 жніўня.

А ўчора ўвечары ў Кубку Кубкаў дэбютаваў на эўрапейскай арэне мазырскі МВКЦ, які гуляў з ісландзкім "Рэйк'явікам". Дарэчы, сёлетні ўладальнік Кубку Беларусі ўжо выбыў з барацьбы за Кубак краіны-97, саступіўшы ў мінулыя выхадныя "Дынама-93" 1:2. "Вылецелі" з гэтага турніру і абедзьве гарадзенскія каманды: "Нёман" прайграў "Атацы-Аўры" 2:3, а "Кардан Флайерс" - "Дняпру" - 1:3.

# ПАГОНЮ НЯ ЗЬНІШЧЫЎ НАВАТ ЧАС

**Пад час раскопак каля Новага замку ў Горадні знойдзена плінфа з фрагментам выявы Пагоні.**

Знаходка належыць студэнтам першага курса гістфаку Гарадзенскага універсітэту.

Рэшткі плінфы з фрагментамі Пагоні археолагі раней знаходзілі і ў Старым замку.

**В.ДРЭМА.**

## КРЫМІНАЛ

### КАЛІ ПРАПАЎ КЛЮЧ

У такім выпадку не пашкодзіць перастрахавацца, бо вельмі верагодна, што ён можа апынуцца ў ліхадзейскіх руках. Гэтак здарылася днямі ў Лідзе, дзе гаспадар, які прыйшоў дамоў з работы, засьпеў у кватэры зладзейку. Ёю аказалася суседка, да таго ж ужо сталага ўзросту. Не раздумваючы, мужчына зачыніў дзьверы і, папрасіўшы суседа павартаваць, пабег за міліцыяй. Ды толькі й зладзейка дарма час ня бавіла, а на вяроўцы пачала спускацца ўніз з пятага паверха. Аднак ёй не пашчасьціла, бо вяроўка абарвалася, і "шваняйка" трапіла ў шпіталь.

### ХУТКІ СУД

Трагедыя, якая здарылася ў вёсцы Лаздуны Івейскага раёну, ужо колькі дзён на слыху ў мясцовых жыхароў. Спачатку ў хаце агледзелі труп 40-гадовага вяскоўца і зраненае цела гаспадыні, якую ўсё ж пасьпелі давезьці да бальніцы, дзе яна і памерла. Абодва былі моцна зьнявечаныя сякерай. Адначасова недзе зьнік муж забітай - гаспадар змрочнага жытла.

Што ж здарылася? У вясковым парку знайшлі павешанае цела падазронага ў забойстве гаспадара хаты. Як мяркуюць вяскоўцы, хутчэй за ўсё, што менавіта ён гэткім чынам вынес свой вырак зухаватаму каханку, а заадно і жонцы. Раўнівы муж ня раз абяцаў паставіць у гэтай працягла-цнатлівай справе крывавую кропку.

**Іван ДАНІЛОВІЧ.**

### МАСТАКАМ ДАПАМОГ ВЫПАДАК

Літаральна сярод белага дня, невядомыя злачынцы выламалі ўсе дзьверы, якія вялі да майстэрні вядомых гарадзенскіх мастакоў Алеся Сурава і Уладзіміра Кіслага.

На шчасьце мастакоў, у гэты час да іх у госьці накіроўваўся агульны знаёмы. Пачуўшы яго крокі, вандалы ўцяклі.

# КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*

**Склаў Іван КУРБЕКА.**



**Па гарызанталі:** 5. Наст. 6. Размышление. 10. Зоб (у птиц) 11. Потолок. 12. Душник. 15. Поступок. 18.Алтын. 19. Польза, выгода. 20. Плакса. 21. Осмотр. 23. Чернобыль. 25. Просчёт. 26. Воспоминание. 30. Сведение. 32. Питьё. 33. Тётя. 34. Столбик. 35. Подойник.

**Па вертыкалі:** 1. Хворост. 2. Снег с дождём. 3. Подкладень. 4. Ломоть. 7. Нищета. 8. Неприкосновенность. 9. Мельник. 10. Преемник. 14. Предосторожность. 16. Вожак. 17. Полка ( в углу избы). 22. Призрак. 24. Блоха. 27. Старичок. 28. Трубка (свёрток холста). 29. Волна. 31. щепка.

**Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў папярэднім нумары.**

**Па гарызанталі:** 5. Гарыца. 6. Швачка. 10. Марыва. 11. Люлька. 12. Будоўля. 13. Папар. 15. Палон. 18. Араты 19. Адзёр. 20. Тузін. 22. Торба. 25. Змога. 27. Аліва. 29. Кілішак. 31. Сценка. 32. Айчына. 33. Гавяда. 34. Дроцік.

**Па вертыкалі:** 1. Зарыва. 2. Выраб. 3. Кафля. 4. Скалка. 7. Качаня. 8. Збожжа. 9. Скронь. 14. Радзіма. 15. Падзяка. 16. Варта. 17. Чытач. 21. Замець. 23. Раніца. 24. Півоня. 26. Ганчак. 28. Лучнік. 29. Камяк. 30. Калок.

# ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3 - 20.4)** Удалы тыдзень. На працы чакаюцца посьпехі. Але Венера можа прывесьці да эмацыянальнага выбуху. Сачыце за нервамі, асабліва ў сераду.

**ЦЯЛЕЦ (21.4 - 20.5)** Меркурый прадказвае посьпех у бізнэсе. Не сядзіце ў хаце, а больш бывайце ў кампаніі сяброў. Дзякуючы гэтаму ў нядзелю да Вас прыйдзе цудоўная думка, якая прывядзе да яшчэ большых посьпехаў.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5 - 21.6)** Магчыма ўзьнікненьне розных праблем. Самому ў іх разабрацца будзе цяжка. Абавязкова трэба параіцца з якой-небудзь аўтарытэтнай асобай. Суцяшэньнем будзе ўдалая гандлёвая дамова. Купіце нешта для каханага чалавека.

**РАК (22.6 - 22.7)** Венера прадказвае для Вашага знаку цэлы тыдзень каханьня. Таму будзе прыемная атмасьфера ў хаце. Магчымы візіт сяброў або родзічаў.

**ЛЕЎ (23.7 - 23.8)** Нечаканыя сяброўскія сустрэчы прывядуць да памяншэньня зьмесьціва і так няпоўнага кашалька. Але ня трэба шкадаваць, бо хутка Вашыя даходы павялічацца. У хаце гармонія і добрае ўзаемаразуменьне.

**ПАННА (25.8 - 23.9)** Тыдзень павінен быць ўдалым. Меркурый дадасьць Вам бадзёрасьці. Таму ўвесь уік-энд будзеце ў цэнтры ўвагі сяброў і супрацьлеглага полу. Таксама ёсьць сэнс паспрабаваць згуляць у латарэі.

**ШАЛІ (24.9 -23.10)** Вас чакаюць цудоўныя дні. Але ад панядзелку трэба будзе праявіць руплівасьць у працы. Набірайцеся сіл у нядзелю, бо ў суботнюю ноч магчыма вычарпальная забава.

**СКАРПІЁН (24.10 - 22.11)** У бліжэйшыя дні атрымаеце цікавую прапанову сумеснай працы. Але перад тым, як пагадзіцца на яе, уважліва разгледзьце ўсе плюсы і мінусы. Пасьля 14.8 рашуча бярыцеся за работу.

**СТРАЛЕЦ (23.11 - 21.12)** Зоркі прадказваюць спакойныя дні. Таму будзе больш часу для хатніх спраў. У выхадныя лепш заняцца кансервацыяй садавіны на зіму.

**КАЗЯРОГ (22.12 - 20.1)** У нядзелю чакайце прыемных гасьцей. Асабліва асобы з-пад знака Барана. Паляпшэньне фінансавага становішча дазволіць зрабіць невялікі рамонт кватэры.

**ВАДАЛЕЙ (21.1 - 19.2)** Зоркі спрыяюць Вашаму знаку. На працы - поўны посьпех і прызнаньне кіраўніцтва. Вашу адданасьць нарэшце заўважаць.

**РЫБЫ (20.2 - 20.3)** Неабходна быць больш рашучым. Пры гэтай умове магчымы посьпех на працы. У пачуцьцях чакаюцца непакой і няўпэўненасьць. 14.8 нельга спрачацца з каханым чалавекам.

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня:
230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Заказ 2712 Наклад 12095
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 08.08.96

Рэдактар Мікола Маркевіч